**№ 7 (1570)**

Серада, 15 студзеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па значнай частцы тэрыторыі ападкі, пераважна мокры снег, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца, па паўднёвым захадзе туман. Вецер заходні, 6—11, уначы парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0...-2, Гродне, Брэсце — +1...+3, Мінску — 0...+2, Гомелі, Магілёве — каля 0.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам ападкі, слабы галалёд, месцамі туман, уначы і раніцай на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 6—11 м/с, па паўночнай частцы тэрыторыі парывы да 15—20. Тэмпература паветра 16-га на працягу сутак — -3...+2, пры праясненнях — да -6, 17-га ўначы — -1...-6, удзень — -1...+4.



**ПУЛЬС**

## «Міжнародная амністыя» патрабуе праўды аб знікненні беларускіх апазіцыянераў

*Праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" пачала збор подпісаў пад зваротам да Аляксандра Лукашэнкі, які датычыць знікнення беларускіх апазіцыйных палітыкаў. Тэкст звароту размешчаны на сайце нідэрландскага аддзялення гэтай арганізацыі (www.amnesty.nl). У ім утрымліваецца патрабаванне "адкрыць праўду" аб лёсе зніклых палітыкаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, аператара Дзмітрыя Завадскага і бізнесмена Анатоля Красоўскага.*

У звароце, у прыватнасці, гаворыцца: "Я б хацеў выказаць сваю занепакоенасць тым фактам, што месцазнаходжанне аператара Дзмітрыя Завадскага, які знік 7 ліпеня 2000 года, дагэтуль невядома... Я таксама не задаволены прагрэсам у расследаванні знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, якія прапалі ў 1999 годзе. У гэтых справах не былі расследаваны шматлікія сведчанні і дакументы, якія адкрыта публікаваліся ў газетах. Сем'і гэтых людзей надта доўга хвалюе няведанне таго, што здарылася з іх мужамі, бацькамі і сынамі. Я заклікаю вас пакласці канец гэтай беспакаранасці і пераканацца ў тым, што абвінавачанне расследуе ўсе даступныя па гэтых справах матэрыялы".

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## У 2003 годзе адменяць прапіску?

У Міністэрстве ўнутраных спраў Беларусі падрыхтаваны і накіраваны ва ўрад прапановы па адмене ў краіне інстытута прапіскі і ўвядзення інстытута рэгістрацыі грамадзян. Матэрыялы павінны быць разгледжаны Саветам міністраў у 2003 годзе.

Паводле звестак УПВС МУС, у 2002 годзе ў падраздзяленнях пашпартна-візавай службы разгледжана больш за 2 млн. зваротаў грамадзян аб змяненні месца жыхарства.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Ратуйма Белавежскую пушчу!

Кіраўнік прадстаўніцтва ААН у Беларусі Ніл Бунэ гатовы ўзяць удзел у дыялогу грамадскасці і ўладаў па праблемах Белавежскай пушчы. Пра гэта ён заявіў у Мінску 13 студзеня на сустрэчы з галоўным рэдактарам газеты "Белавежская пушча", кіраўніком грамадскай экалагічнай ініцыятывы "Тегга-канвенцыя" Валерыем Дранчуком.

Як паведамлялася раней, 12 вядомых беларускіх і расійскіх журналістаў, сярод якіх і В.Дранчук, звярнуліся да Н.Бунэ з прапановай арганізаваць трохдзённую прэс-экспедыцыю ў нацыянальны парк "Белавежская пушча" з удзелам грамадскасці і навукоўцаў, якія займаюцца праблемамі гэтага самага старога лесу Еўропы. Галоўнай падзеяй акцыі, на думку журналістаў, павінна стаць абмеркаванне пытання аб прамысловым знішчэнні біяразнастайнасці Белавежскага лесу.

Выступаючы ад імя падпісантаў звароту, В.Дранчук сказаў: "Беларуская недзяржаўная прэса красамоўна засведчыла, што якасць захавання Белавежскай пушчы як сусветнага рэзервата знаходзіцца пад вялікім сумненнем. Аднак занепакоенасць журналістаў адрасавана не толькі ўраду Беларусі. Мы хочам, каб голас грамадскасці быў пачуты і ўспрыняты прадстаўніцтвам ААН — арганізацыі, здольнай кампетэнтна ацэньваць узровень захавання сусветнай прыроднай спадчыны ЮНЕСКО ў адпаведнасці з прынятымі міжнароднымі канвенцыямі. Наша прапанова скіравана на дыялог з удзелам грамадскасці, якая занепакоена станам гэтага аб'екта і выкананнем прыродаахоўных абавязацельстваў краіны. Мы разлічваем, што дыскусія па гэтым пытанні будзе весціся не ў офісах, а на "месцы здарэння", якім з'яўляецца Белавежская пушча".

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## У Мінску будзе пабудаваны комплекс па водных відах спорту

У Мінску ля крытага футбольнага манежа ў мікрараёне "Вяснянка" будзе пабудаваны комплекс спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па водных відах спорту.

У склад комплексу ўвойдуць некалькі спартыўных і навучальных залаў, басейн для трэніровачнага плавання, невялікі гатэль, кафэ і памяшканні для адміністрацыі. На прылеглай да спарткомплексу тэрыторыі будуць размешчаны элінгі для захоўвання лодак, боксы для рамонту, спартыўныя пляцоўкі.

Будаўніцтва комплексу пачнецца ў 2004 годзе.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Разгон в «Беларускім часе»

*Новый год в Федерации профсоюзов Беларуси начали с увольнения журналистов газеты "Беларускі час".*

После скандального увольнения в августе 2002 года главного редактора профсоюзной газеты "Беларускі час" Александра Старикевича исполнение обязанностей редактора перешло к Ирине Германович. Журналисты издания поддержали инициативу ОО "Белорусская ассоциация журналистов" и поставили свои подписи за отмену статей Уголовного кодекса, на основании которых работников СМИ преследуют за критику власть предержащих. Когда стало очевидным, что они не намерены менять редакционную политику и стремятся писать правду, Ирину Германович поставили перед выбором: либо увольняйся по собственному желанию, либо уволим по статье. За спиной творческого коллектива начались закулисные игры.

Назначенная на должность главного редактора Светлана Балашова объявила, что "в связи с создавшимся тяжелым финансовым положением" для всех будет установлено неполное рабочее время — 2 часа в день с окладом в 0,25 ставки. Сотрудникам выплачивали мизерные авансы с большими задержками. Те, кто работал в редакции по договору подряда, в течение почти двух месяцев вообще ничего не получили.

Накануне Рождества журналистский коллектив "Беларускага часу" уволили по сокращению штата "в связи с тяжелым финансовым положением". Это расценивается как запрет на профессию: найти работу по специальности в условиях, когда в Беларуси постоянно закрываются независимые газеты, весьма сложно.

**Ирина Германович, Александр Дубравин, Владимир Дзюба, Александр Егоров, Сергей Юрьев и Алесь Хмельницкий** обратились за поддержкой к читателям, белорусской и международной общественности.

Что интересно: права журналистов обязаны защищать в первую очередь профсоюзы. К сожалению, профсоюзные чиновники сидят как мыши под метлой. Спрашивается: зачем тогда вообще такие профсоюзы?

## *Янка КУПАЛА:*

*"Беларусь... можа шукаць апоры ў суседзяў хаця б цаной дзяржаўнага саюзу (саюзу, а не саюзнай дзяржавы! — Рэд.) з тым ці іншым... Але і робячы саюз, падпісваючы тыя ці іншыя ўмовы, Беларусь павінна рабіць гэта паводле вольнай волі сваёй, павінна выступаць як* ***непадзельная суверэнная дзяржава...*** *"*

**МАСКВА—МІНСК**

# 19—20 студзеня ў Беларусі будзе знаходзіцца з афіцыйным візітам прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін

***«Што Вы асабіста хацелі б яму сказаць пры магчымай сустрэчы?»*** *— з такім пытаннем рэдакцыя "Народнай волі" працягвае звяртацца да шэрагу палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, рабочых і прадстаўнікоў інтэлігенцыі.*

***Алесь ПАШКЕВІЧ, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:***

— Я пажадаў бы Пуціну яшчэ больш паважаць Беларусь і беларусаў як асобную нацыю і асобны народ.

***Ганна ПЁТУХ, выхавальніца дзіцячага садка:***

— Я падзякавала б Уладзіміру Уладзіміравічу за тое, што знайшоў час наведаць сінявокую Беларусь і папрасіла б навучыць нечаму нашага кіраўніка, які шмат гаворыць, але выніку ад яго слоў няшмат. Мне здаецца, што Пуцін, які прасоўвае сваю краіну ў цывілізаваны свет, гэта сучасны палітык, у якога трэба вучыцца.

***Ірына КРАСОЎСКАЯ, жонка скрадзенага ў 1999 годзе бізнесмена Анатоля Красоўскага:***

— У першую чаргу я папрасіла б Пуціна адказаць на ліст, які мы напісалі разам з Ганчар, Завадскай і Захаранка. Мы прасілі яго пагаварыць з Лукашэнкам наконт знікненняў яго палітычных апанентаў і парушэнняў правоў чалавека, у тым ліку права на жыццё, права на свабоду слова. Гэта асноўныя пытанні. Калі на іх будзе адказ, толькі ў гэтым выпадку можна весці з Пуціным гутаркі на іншыя тэмы: пра эканоміку, пра саюз і г.д. Я лічу, што аб'яднацца з краінай, дзе знікаюць палітычныя апаненты, ва ўсякім разе з боку Расіі, гэта — вельмі небяспечна.

***Міхаіл ПЛІСКА, галоўны рэдактар часопіса "Адкрытае грамадства":***

— Я хацеў бы перадаць спадару Пуціну маё пажаданне ні ў якім выпадку не працягваць узмацняць аўтарытарныя тэндэнцыі сваёй палітыкі, чым ён зараз займаецца, і пакінуць, у рэшце рэшт, Беларусь у спакоі.

***Вінцук ВЯЧОРКА, старшыня грамадскага аб'яднання "БНФ "Адраджэньне":***

— Я сказаў бы Пуціну: "Шаноўны Уладзімір Уладзіміравіч! Вельмі хацелася б спадзявацца, што вы сапраўды ставіце за мэту прывесці Расію ў Еўропу. Але для таго, каб гэта зрабіць, найперш трэба адмовіцца ад любых спроб падпарадкоўваць сабе палітычна, эканамічна, інфармацыйна суседнія краіны. У Еўропе так не прынята. Абсалютная большасць беларусаў бачыць сваю краіну незалежнай, еўрапейскай дзяржавай у складзе Еўрапейскага Саюза, пры гэтым хочуць захоўваць нармальныя добрасуседскія дачыненні з суседняй Расіяй. Але не больш за тое. У рознага кшталту імперыях мы ўжо былі, і паўтарэння гісторыі мы не хочам.

***Ігар ЛАЗАРЧУК, прэзідэнт Беларускага цэнтра ў Бельгіі і Галандыі:***

— Я задаў бы Пуціну пытанне: калі ён скончыць падтрымліваць Лукашэнку — кіраўніка, падчас праўлення якога ў Беларусі знікаюць людзі — палітычныя апаненты існуючага рэжыму?

***Мікалай ЧАРГІНЕЦ, старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах:***

— Я хацеў бы пажадаць Уладзіміру Уладзіміравічу поспехаў у пытаннях, якія ён вырашае на карысць народа Расіі. І як члену Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюза Беларусі і Расіі я хацеў бы пажадаць яму поспехаў і на гэтым полі дзейнасці.

***Васіль САКОВІЧ, кіроўца-"дальнабойшчык", г.Гомель:***

— Я спытаў бы прэзідэнта Расіі: чаму мы ўжо столькі гаворым пра нейкі саюз паміж нашымі краінамі, а ніякага рэальнага супрацоўніцтва няма? Пуцін то крытыкуе Лукашэнку, то зноў сябруе з ім, а паліва ў Беларусі як было даражэй, чым у Расіі, так і засталося.

**Вольга РАМАНЮК, Алесь СІЛІЧ.**



**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## *Людмила КАРПЕНКО:*

# Мой отъезд — явление временное

***Год назад в Германию уехала семья Геннадия Карпенко — известного политика, заместителя председателя Верховного Совета 13-го созыва, умершего 6 апреля 1999 года при загадочных обстоятельствах. Спустя полгода Людмила Филипповна Карпенко, ее сын Дмитрий и дочь Татьяна с семьей получили в немецком городе Трире статус политбеженцев. Сегодня семья Карпенко живет в Эслингене.***

**— Можете ли Вы сказать, что прижились в Германии, что чем-то эта страна заменила Вам Родину,** — с таким вопросом я обратились к Людмиле Филипповне.

— Германия — своеобразная страна, совсем непохожая на Беларусь. Молодым, может быть, проще прижиться в чужой стране, а мне в моем возрасте — тяжело. Вроде бы я здесь, а душа все равно в Беларуси.

**— Не жалеете, что уехали?**

— Это непростой вопрос. Тяжело расставаться с Родиной. Я и сейчас мысленно там. В Беларуси мой дом, там могила моего мужа. В Минске живет мама Геннадия, моя старшая внучка.

Но я уже рассказывала о причинах своего отъезда. После смерти Геннадия мне пришлось уйти с работы. Отношение ко мне руководства Белвнешэкономбанка, в котором я работала, изменилось сразу после того, как не стало мужа. Если раньше я чувствовала, что меня не хотят трогать (вдруг Геннадий Дмитриевич станет президентом), то после его смерти мне сразу дали понять — за мной никого нет, а значит, ко мне можно относиться пренебрежительно и некультурно. Буквально каждый день я возвращалась с работы со слезами на глазах. Я не выдержала и написала заявление "по собственному желанию".

Накануне президентских выборов мне угрожали, открыто говорили, что меня уберут так же, как и моего мужа. Я знала, что прослушивается не только мой телефон, но и вся квартира. Посоветовавшись с детьми, мы решили уехать.

С первой минуты своего пребывания в Германии я знала, что мой отъезд — явление временное. При первой возможности я вернусь в Беларусь. Я люблю свою Родину, свою землю, свой народ, за исключением одного человека, который разрушил мою жизнь.

**— Статус политбеженца, который Вы получили в Германии, облегчил Вашу жизнь в материальном смысле?**

— Льготы одинаковые для всех беженцев. Мы имеем ежемесячное пособие, пособие на социальное жилье, право на бесплатные языковые курсы. Конечно, это хорошо, потому что нам есть где жить и за что питаться.

Сын учится в университете города Тюбингена. В Германии дипломы почти всех белорусских вузов не признаются, а диплом физика — исключение. Дима закончил физфак Белорусского государственного университета и смог подтвердить здесь свои знания.

Дочь сейчас занимается на интенсивных курсах немецкого языка, собирается подтверждать диплом экономиста. Но ей придется доучиваться. Правда, платить за учебу Татьяне не нужно. В Германии есть специальные фонды, которые поддерживают тех, кто желает учиться дальше.

**— Людмила Филипповна, а если придется задержаться в Германии подольше, чем Вы будете заниматься?**

— Я закончила полугодовые курсы немецкого языка. Собираюсь учиться дальше. В ближайших планах — профессиональные курсы по специальности, близкой к моей. К сожалению, в немецком банке работать не смогу, потому что для этого требуется диплом университета Германии. Думаю, смогу устроиться на работу в другом месте. Точно знаю одно: сидеть сложа руки не буду. Я никогда не сидела дома, даже тогда, когда Геннадий занимал высокие должности. А перед отъездом из Беларуси очень активно занималась политикой, была членом оргкомитета "За новую Беларусь". Сегодня меня тяготит такое положение: слабое владение немецким языком не позволяет в полной мере общаться с людьми.

**— Координируете ли Вы, как собирались, работу фонда имени Геннадия Карпенко за границей?**

-- Я всегда говорила, что мой отъезд не означает, что я капитулировала или просто сдалась.

Но меня очень огорчил один факт. Как известно, при Парламентской Ассамблеи Совета Европы создана специальная комиссия по расследованию громких дел в Беларуси. Руководит комиссией известный российский правозащитник Сергей Ковалев. В свое время я вместе с женами исчезнувших политиков приложила немало сил, чтобы эта комиссия была создана. За год, что я нахожусь здесь, у меня было много международных встреч, где как раз-то и решался этот вопрос. Но комиссия пока не рассматривает дело Геннадия Карпенко. И мне приходится бороться одной. Но я не сдаюсь. И делаю все, что от меня зависит.



**— Друзья Вас поддерживают?**

— Да, конечно. В Германии я поддерживаю связь с бывшим послом ОБСЕ в Беларуси Хансом-Георгом Виком, с Ольгой Борисовной Захаренко. В июле мы встречались с ней в Берлине на Ассамблее ОБСЕ. Думаю, что встречусь с Ольгой весной этого года.

Немцы понимают дружбу не так, как мы, белорусы. Здесь не пойдешь и не одолжишь кусок хлеба или горстку соли. Тем не менее у нас есть друзья среди немцев: они приглашают нас в гости, сами приходят к нам, поддерживают морально.

Из Беларуси тоже звонят друзья, иногда приезжают. И я им благодарна за это.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

## Да 19 студзеня Вас чакаюць на пошце ці ў любым падпісным пункце

*Зноў некаторыя нашы чытачы наступілі на тыя ж граблі: спазніліся з падпіскай на першую палову 2003 года.*

*Калі Вы хочаце атрымліваць газету з 1 лютага, Вам трэба зазірнуць на пошту ці ў любы падпісны пункт да 19 студзеня.*

*Падпіску можна аформіць на любы тэрмін — ад месяца да заканчэння першага паўгоддзя.*

***Не спазніцеся на гэты раз!***

**НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!**

## Не отбирайте у работающих пенсионеров пенсию

Уже с полгода как ползут слухи насчет того, что работающим пенсионерам будет выдаваться только половина пенсии. Разговоры на эту тему активизировались после того, как одним декабрьским утром министр по соцобеспечению выступила по российскому радио и оповестила чуть ли не на весь мир, что в Беларуси подготовлен новый законопроект о пенсиях, который как раз и предусматривает лишение работающих ветеранов половины их заслуженной пенсии...

Как-то в семьдесят с хвостиком совсем не хочется говорить о правах человека, о гуманном законодательстве и, наконец, о справедливости. Она для советских старичков закончилась вместе с потерей денежных вкладов, которые копеечка к копеечке откладывались десятилетиями. Многим, наверное, и невдомек, что эта акция была равносильна грабежу на большой дороге.

Не надеясь на положительный результат, хочется высказать наболевшие мысли о существующих трудовых пенсиях и по старости. Продолжительность жизни нашего человека позволяет пенсионеру донашивать до смерти все советское: пальто, сапоги, шапку, штаны... Пенсии пока хватает, чтобы заплатить за квартиру и, как говорят горожане, "на кефир". Но этим ли только жив человек?

Давайте представим себе рядового, невоенного, среднего нашего пенсионера, с 80 тысячами в месяц. Семья состоит из двух пенсионеров, дети есть, но у них свои семьи, живут отдельно и, как правило, хлопот полон рот у самих. Арифметика несложная: доход обоих составляет 160 тысяч рублей в месяц. Плата за квартиру с телефоном, телевизором и радио потянет тысяч на 40. Хлебобулочных изделий нужно тысяч на 10? Нужно. Молоко, кефир, сметана, творог — 15 тысяч рублей, мясо, мясные и колбасные изделия при нынешних ценах — тысяч 60, масло растительное и животное — еще тысячи три, крупяные, мучные и макаронные изделия потянут тысяч на 5? Потянут. Картофель, фрукты и овощи — еще тысяч 30. А на моющие, чистящие и дезинфицирующие средства также нужно тысячи 4. И столько же необходимо истратить любителям чая и кофе. Наконец, 40 поездок на двоих городским транспортом обойдется в 3,6 тысячи рублей.

Как видно из раскладки, ни кино тебе, ни театра, ни газетки, ни выезда за город, даже на трусы уже денег не хватает. Семейный бюджет и без этого уже оказался дефицитным на 2,6 тысячи рублей.

Не скрою, до недавних времен пенсионеры надеялись, что дождутся достойной жизни. Но надежды эти тают, как весенний снег. Вот и в будущем году бюджет ожидается с дефицитом. Но, на мой взгляд, поправлять финансовые дела за счет пенсионеров только потому, что их много, а проще, они не успевают умирать, чтобы тем самым укрепить финансовую дисциплину в государстве, — это реально, но не гуманно. С точки зрения юридической — тоже не лучший вариант. Как это у меня можно отобрать половину пенсии только за то, что я решил в пожилом возрасте поработать, как правило, за мизерную зарплату, которая вкупе с пенсией позволяет мне сводить концы с концами?!

А самое главное — не надо тем, кто у власти, хитрить. Скажите честно, что надо. Если не хотите за счет работающих пенсионеров создавать "богачей", а плодить только нищих, копающихся в мусорках, так дайте команду не брать пенсионеров на работу.

А с другой стороны, как, скажем, сельскому пенсионеру запретить работать? Отобрать у них приусадебные участки, вывести из сараев скотину? Если это, не дай Бог, произойдет, настанет конец света.

**Анатолий КОЛАЧЕВ, пенсионер.**

*г.Минск.*

## Дзяржаўную ўласнасць выкарыстоўваюць абы-як

Больш за 500 аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці на тэрыторыі Магілёўскай вобласці выкарыстоўваюцца неэфектыўна або не выкарыстоўваюцца наогул. Пра гэта паведаміў дырэктар фонду "Магілёўаблмаёмасць" Мікалай Кароцін. На яго думку, асноўнай прычынай неэфектыўнага выкарыстання маёмасці з'яўляецца недастатковая ўвага да гэтай праблемы мясцовых улад.

Паводле звестак фонду, у вобласці налічваецца 1247 незавершаных аб'ектаў; 377 пабудоў былых ваенных гарадкоў Савецкай арміі дагэтуль не ўцягнуты ў народную гаспадарку.

Летась у вобласці былі праведзены 124 аўкцыёны па продажы нерухомасці і дзяржаўных пакетаў акцый прадпрыемстваў на агульную суму 21 мільярд беларускіх рублёў. У выніку прададзена ўласнасці на 6,4 мільярда рублёў.

Мікалай Кароцін упэўнены, што сума паступленняў у бюджэт ад продажу дзяржаўнай уласнасці магла быць значна вышэйшай, калі б кіраўнікі ўсіх райвыканкамаў удзялялі належную ўвагу працэсам раздзяржаўлення. Ён адзначыў, што ёсць раёны, у якіх летась не было арганізавана ніводнага аўкцыёну па продажы ўласнасці, якая не выкарыстоўваецца або выкарыстоўваецца неэфектыўна.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

ЗА ЧАШЕЧКОЙ КОФЕ С МАРИНОЙ КОКТЫШ

# «Невлюбленный» дипломат

*Пару месяцев назад в Беларусь приехал новый Чрезвычайный и Полномочный Посол Франции* ***Стефан Шмелевский****. Во время разговора с ним я заметила одну вещь: даже на самые острые и, казалось бы, неудобные для дипломата вопросы, он отвечает с очаровательной улыбкой...*

**— Господин Шмелевский, когда у дипломатов спрашивают, как они восприняли свое очередное назначение и с каким настроением приехали на новое место, практически все отвечают одинаково: *"Счастлив, что выбор пал именно на эту страну"*. Надо полагать, что Вы — не исключение. И тоже давно мечтали не только побывать, но и поработать в Беларуси...**

— Нет, я не стану придерживаться классической модели ответа. Не могу отвечать на первый же вопрос обманом...

Дипломат всегда готов служить своей родине там, куда его пошлют. Поэтому мне было совершенно безразлично, попаду я в эту страну или другую. Но так как я владею русским языком, то предполагал, в каком примерно регионе буду работать. Хотя в этой части света есть государства, у которых отношения с моей страной гораздо лучше, чем между Беларусью и Францией. И в этом смысле, может быть, я был бы более счастлив где-нибудь в другом месте...

**— Насколько я понимаю, раньше Вам в белорусской республике бывать не приходилось?**

— Я лишь пару раз пересекал территорию Беларуси, поскольку некоторое время работал в Москве.

**— Французам хорошо знакомо понятие "любовь с первого взгляда". В Беларуси Вы больше трех месяцев. За это время уже успели влюбиться в нашу страну или полагаете, что все еще впереди, когда стерпится, тогда и слюбится?**

— Я всегда стараюсь не влюбляться в ту страну, в которой работаю. Считаю это технической ошибкой. Дипломат не должен наблюдать за тем, что происходит, безумно влюбленными глазами. У него должен быть беспристрастный взгляд непредвзятого наблюдателя.

**— Значит, после Бостона, где Вы представляли Францию, Беларусь показалась Вам провинцией...**

— Невозможно сравнивать Бостон и Беларусь. С точки зрения культурной, экономической и политической — это два абсолютно разных мира. Недавно меня просили сравнить зиму в Масачусетсе и Беларуси. Но даже здесь я не могу провести параллели: в Масачусетсе зимы тоже очень холодные, но там все-таки ближе к морю. И я не могу ответить на вопрос, где снег тает быстрее...

Кстати, я предпочитаю лучше большой мороз, но сухой, чем менее холодную погоду, но влажную.

**— У МИДовских чиновников, судя по всему, мороз по коже прошел, когда в конце прошлого года в Беларуси снова стала актуальной тема дипломата-невозвращенца. Вы наверняка слышали про скандал, случившийся с послом Беларуси в Японии Петром Кравченко. Не жаждут возвращаться на родину и некоторые другие дипломаты, представляющие Беларусь в зарубежных странах. Интересно, за собственную богатую дипломатическую карьеру Вы встречались с такими случаями? И как подобное можно прокомментировать с точки зрения дипломатической этики?**

— Я долго размышлял над этим вопросом... Я лично никогда не сталкивался с подобного рода проблемами. Но знаю, что бывали случаи, когда государственный служащий не может вернуться в свою страну, поскольку не чувствует там себя в безопасности. Данная проблематика была весьма актуальна во время холодной войны. Но таких дипломатов лично я не встречал. Хотя встречался с писателями, оказавшимися в подобной ситуации.

**— А в Вашей жизни были моменты, когда не хотелось возвращаться на родину?**

— Нет. Для меня это довольно странная мысль. И, насколько знаю, большинство французских дипломатов, с которыми я знаком, никогда не задают себе подобных вопросов.

На мой взгляд, существует очень прочная связь между родиной и дипломатом. Я даже сказал бы по-другому: зарубежная карьера заставляет больше любить свою родную страну. За границей вы лучше, чем те, кто остался на родине, понимаете, чего лишились и чего вам не хватает. За границей легче сравнивать образ жизни в своем и чужом государстве. И в моем случае во всех странах, где я был, сравнение всегда было в пользу Франции.

**— Интересно сравнить, насколько белорусская борьба с коррупционерами отличается от французской? На протяжении минувшего года власть якобы вела активную борьбу с коррупцией от власти. За этот год в тюрьму попало много руководителей, в том числе такие, как гендиректор Минского тракторного завода Михаил Леонов, гендиректор "Атланта" Леонид Калугин, начальник Белорусской железной дороги Виктор Рахманько. С коррупцией в высших эшелонах власти борются во всем мире. Интересно, как это делают во Франции?**

— Я еще не совсем хорошо знаком со всей широтой этой проблемы в Беларуси. Но что касается моей страны, то коррупция, особенно в среде государственных служащих, всегда рассматривается как очень и очень серьезное явление.

*Чрезвычайный и Полномочный Посол Франции в Беларуси Стефан Шмелевский.*

Во Франции, в частности, в области законодательства, всегда очень аккуратно подходят к тому, что касается общественных денег. Французское государство считает: деньги, полученные посредством налогов от граждан, должны использоваться максимально прозрачно. Это наследие пришло к нам от Французской революции.

В настоящее время борьбу с коррупцией у нас можно разделить на две части.

Первая — это дела, связанные с финансированием политических партий. Примерно шесть лет назад было принято несколько законодательных актов, запрещающих политическим партиям принимать деньги от предприятий и частных лиц. Чтобы не возникало никаких недоразумений и все было справедливо, государство само финансирует все предвыборные и выборные кампании.

Вторая категория дел по борьбе с коррупцией связана с конкуренцией на рынке общественных работ. Например, вы хотите построить мост через какую-то реку. Необходимо, чтобы все предприятия, желающие выполнить эту работу, были поставлены в равные условия, чтобы ни у кого не возникло соблазна дать взятку ответственному государственному служащему и получить этот заказ.

Я описал лишь общие проблемы, которые существуют в этом плане во Франции. И могу сделать одно очень общее замечание относительно белорусских проблем. Беларусь совсем недавно вышла из тоталитарного периода. А в тоталитарном режиме уважение к государству исчезает, поскольку оно не обеспечивает торжество справедливости.

**— Хочу уточнить: Вы действительно уверены, что Беларусь уже вышла из тоталитарного режима?**

— Я говорю сейчас только о советских временах. В этой связи неуважение к государственной собственности или путаница, возникающая между понятиями государственной и частной собственности, — действительно, очень благоприятная почва для коррупции...

**— Если позволите, еще один вопрос о политике. Недавно Европейский союз запретил президенту и некоторым министрам въезд в Европу. Руководство Беларуси твердит, что подобная мера вредит нашим отношениям с Европой. На Ваш взгляд, может быть, наоборот, эти строгие меры надо было принять еще раньше, например, до президентских выборов?**

— Беларусь — независимая страна. И члены Европейского союза дорожат этим. Мы обращаем свой соседский взгляд на то, что происходит в этой стране. Соседи ведь иногда спрашивают друг друга, почему вы поступаете так, а не иначе.

Страны Евросоюза сплотились вокруг идей демократии и прав человека. Защищать их — правое дело, — считают они. Евросоюз хотел бы, чтобы основные принципы демократии и прав человека имели место и в Беларуси. И исключительно по этой причине мы были вынуждены сделать некоторые замечания. Естественно, в духе дружбы. И не стоит расценивать наше поведение, как вмешательство во внутренние дела. Может быть, это наша слабость, но мы верим, что жизнь и правила, действующие в наших странах, — единственно верные.

Запрещение на въезд в ряд стран Европы — это определенный сигнал. Мы хотим показать, что хотели бы быть выслушанными.

Вы говорите, что, похоже, этот сигнал был сделан немножко поздновато. Но такие вещи, как вы знаете, решаются не одним голосом, а пятнадцатью. Достичь консенсуса всегда очень трудно по любым вопросам...

Беларусь, возможно, страдает от своего негативного имиджа, от того, что на нее все время показывают пальцем. Однако нужно отдавать себе отчет, на ком лежит ответственность за весь этот негатив. Не думаю, что наши решения каким-то образом влияют на экономические подходы, культурный обмен или гуманитарную помощь. Европа и Франция, в частности, всегда стараются, чтобы подобного рода запреты никак не влияли на жизнь простых граждан, не несущих ответственности за то, что сегодня происходит в стране. Получается ли у нас поступать таким образом или нет — трудно сказать...

**— Может, Вы скажете, почему белорусские власти опасаются создания независимой международной комиссии по расследованию исчезновений Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского и Дмитрия Завадского?**

— Я, безусловно, знаю об этих исчезновениях. Во Францию приезжали жены пропавших деятелей. Наше общественное мнение очень обеспокоено этой проблемой.

К сожалению, у меня нет ответа на вопрос, почему же не был пролит свет на эти исчезновения, кто виновен в том, что произошло. Считаю, что абсолютно в интересах Беларуси пролить свет на эти исчезновения, поскольку это намного улучшило бы образ Беларуси за границей. И я не знаю, почему власти противятся созданию международной комиссии по расследованию этих дел.

**— Недавно перед телекамерами Вы заметили, что *"отношения между нашими странами могли бы быть лучше"*. Но, наверное, не только "громкие дела" препятствуют развитию полноценных отношений между Беларусью и Францией?**

— Вы, конечно же, знаете, какой эффект производит общественное мнение. Беларусь имеет негативный имидж во Франции, связанный с предполагаемым притеснением прав человека и нарушением демократии. Таким образом, не имеет большого значения, четыре человека исчезли или сорок. Десять или шестьсот человек сидят в тюрьме за свои слова, собственное мнение. Достаточно всего несколько таких случаев, чтобы испортить репутацию.

**— Кстати, о репутации. Вручая верительные грамоты, Вы сказали А.Лукашенко: *"В моем лице Вы найдете внимательного наблюдателя за тем, что происходит в стране, которой вы руководите. Я буду делать это непредвзято и без заискивания"*. Неужели бывают случаи, когда послы откровенно заискивают перед главами государств?**

— Вы затронули один из самых деликатных моментов, касающийся профессии дипломата. Любое государство, отправляя посла в определенную страну, хочет, чтобы у него сложились самые лучшие отношения с руководством. Но, не встречаясь с людьми, невозможно нормально выполнять свою работу. Если вы не можете выслушать человека, значит, не можете понять, о чем он думает. Поэтому послы всегда разрываются между необходимостью понимать людей и быть с ними в хороших отношениях. Вот что я имел в виду, когда сказал, что хотел бы объективно наблюдать за происходящими здесь событиями. И президент Беларуси мне ответил, что только этого и желает.

**— Насколько искренни должны быть дипломаты в своих взаимоотношениях с людьми? Вернее, в каких случаях они могут позволить себе откровенность и искренность?**

— Есть случаи, когда открытость, искренность и откровенность — лучшая форма дипломатии. Иногда лучше сказать то, что мы думаем или то, во что мы верим.

**— В таком случае, как Вы относитесь к выражению, что дипломат — это человек, которому всегда приходится врать о своей стране, вернее — приукрашивать ее реалии?**

— Оно напоминает мне другой образ. Когда дипломат восклицает: "Какая красивая собачка!", а сам глазами ищет палку, которой можно ее отогнать...

Не припоминаю, чтобы во время своей карьеры мне пришлось что-то лгать про свою страну. Я считаю, что в современном мире известны соотношения слабых и сильных сторон практически каждой страны. Поэтому врать совершенно необязательно.

**— Приехав в Беларусь, Вы заявили: *"Я намерен следовать наставлению моего соотечественника Бомарше, прозвучавшему в 1784 году в его пьесе "Женитьба Фигаро": "Где нет свободы критики, там никакая похвала не может быть принята"*. Судя по всему, Вы любите театр?**

— Да, это правда. Но когда я искал какую-нибудь яркую цитату для своей речи, абсолютно случайно нашел именно эту. Сегодня во Франции, когда произносят эту фразу, меньше всего вспоминают Бомарше. Некоторые думают, что данная фраза — девиз одной из самых знаменитых газет Франции "Фигаро". И в настоящий момент во Франции эта фраза ассоциируется со свободой слова.

**— Знаю, что Вы предпочитаете не говорить о своей личной жизни. Надеюсь, я не вторгнусь в суперличное, если спрошу, чем занимается Ваша супруга?**

— Действительно, я отношусь к тем людям, которые тщательно оберегают свою частную жизнь.

Моя супруга изучала славянские языки. Правда, с началом моей карьеры она практически не занималась своей профессиональной деятельностью. Сейчас Мирэй воспитывает троих детей. Однако не стоит забывать о том, что жена дипломата — тоже дипломат. Моя жена, несмотря на то, что не является служащей Министерства иностранных дел, отвечает за социальную жизнь посольства. Например, за время работы в Бостоне нам приходилось принимать у себя за ужином или обедом около тысячи приглашенных в год: французская дипломатия очень дорожит традицией гостеприимства. И как вы догадываетесь, без супруги, которая согласна заниматься этим, мне было бы очень сложно.

**— Могли бы Вы, особо не задумываясь, сказать, что больше всего любит г-н Шмелевский?**

— Люблю хорошо сделанную работу. Потому что хорошо выполнить работу намного легче, чем плохо. Но я не люблю работу. Вот и вся философия *(Смеется. —* **М.К.***)*.

Еще я люблю тишину. И для меня очень много значат семейные ценности.

**— Может быть, Вы также запросто признаетесь в своих недостатках (или слабостях)?**

— Не уверен...

Не люблю быть рабом своей работы. Я не отношусь к тем людям, которые считают, что работа освобождает от чего-то. Я работаю, потому что обязан работать. Если бы у меня была возможность не работать, я бы не работал. Именно это позволяет мне сохранить определенную критическую дистанцию по отношению к тому, что делаю. Я встречался, например, с некоторыми дипломатами, воспринимающими себя и все то, что они делают, чересчур серьезно. Это, на мой взгляд, плохо.

Надеюсь, Вы оценили способ, который я нашел, чтобы прямо не отвечать на ваш вопрос?

**— Да. Вы — настоящий дипломат...**

ЭКАНАМІЧНЫ БАРОМЕТР

## Трактар для фермераў

На Мінскім трактарным заводзе (МТЗ) распрацаваны трактар нізкай магутнасці "Беларус-622" для фермерскіх гаспадарак. Як паведаміў галоўны канструктар прадпрыемства Міхаіл Мялешка, у 2003 годзе МТЗ вырабіць доследную партыю з 50 адзінак. Магутнасць "Беларуса-622" дасягае 55 конскіх сіл. Пры гэтым трактар малагабарытны. Акрамя сельскай гаспадаркі, ён можа выкарыстоўвацца ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы, дарожных службах і будаўніцтве.

"Беларус-622" можа развіваць хуткасць ад 1,4 да 10 кіламетраў у гадзіну. Яго маса складае 2,5 тоны.

М.Мялешка лічыць, што трактары гэтай мадэлі паспяхова будуць рэалізоўвацца не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД і Балтыі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Шпаркія цэны

На 34,8 працэнта ўзраслі спажывецкія цэны ў Беларусі ў 2002 годзе, паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу краіны. Фактычны паказчык інфляцыі перавысіў прагнозны (20—27 працэнтаў) у 1,29—1,74 раза.

Нягледзячы на зніжэнне інфляцыі, яна застаецца вельмі высокай на фоне іншых краін СНД і Балтыі. У Расіі цэны ўзраслі за 2002 год на 15,1 працэнта, у Казахстане — на 6,6, у Арменіі — на 2, у Малдове — на 2,5 (за студзень—лістапад). Ва Украіне цэны знізіліся на 0,6 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## На амерыканскі рынак

Падпісаннем міжурадавага мемарандума завяршыліся ў Вашынгтоне ў Офісе гандлёвага прадстаўніка ЗША перамовы па пытанні паставак на амерыканскі рынак прадукцыі нафтахімічнай і лёгкай прамысловасці Беларусі.

У прэс-службе МЗС Беларусі паведамілі, што мемарандум, падпісаны на тэрмін да 2006 года, цалкам улічвае інтарэсы беларускіх вытворцаў жаночага адзення і шкловалакна, якія на працягу шэрагу гадоў карыстаюцца ўстойлівым попытам на амерыканскім рынку. Заключанае пагадненне дае магчымасць не толькі захаваць наяўныя аб'ёмы паставак у ЗША гэтых відаў беларускай прадукцыі, але і істотна іх павялічыць.

## Аб рэалізацыі тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў

Савет міністраў Беларусі сваёй пастановай зацвердзіў два палажэнні, што датычацца рэалізацыі ў 2003 годзе юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі тытунёвых выбараў і алкагольных напояў. Абодва дакументы падрыхтаваны ў адпаведнасці з дэкрэтамі Лукашэнкі "Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, абароту, рэкламы і спажывання тытунёвай сыравіны і тытунёвых вырабаў" ад 19 снежня 2002 года і "Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, абароту і рэкламы алкагольнай, нехарчовай спіртаўтрымліваючай прадукцыі, спірту этылавага" ад 18 снежня 2002 года.

"Палажэнне аб рэалізацыі юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі рэшткаў тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў, аптовы і рознічны гандаль якімі з 1 студзеня 2003 года забаронены" распаўсюджваецца, у прыватнасці, на тых, хто рэалізуе гэтую прадукцыю, выраблену ў Беларусі для абароту на яе тэрыторыі без акцызных марак, а таксама тытунёвыя вырабы, вырабленыя ў Беларусі альбо ўвезеныя на тэрыторыю краіны без указання на ўпакоўцы папярэджання аб шкодзе курэння і забароне продажу гэтых вырабаў грамадзянам ва ўзросце да 18 гадоў. Тэрміны рэалізацыі рэшткаў гэтай прадукцыі па стане на 1 студзеня вызначаны: для вытворцаў тытунёвых вырабаў і алкагольных напояў — да 1 красавіка, для аптовых пастаўшчыкоў — да 1 мая, для рознічных гандляроў — да 1 верасня бягучага года.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

# Асцярожна: КГП!

Так, паважаныя спадары і спадарыні, падобна на тое, што на Беларусі актыўна дзейнічае Камітэт Ганення Прафсаюзаў.

Лета 2002 года паставіла ўсю сістэму прафсаюзаў перад шэкспіраўскім выбарам "быць ці не быць?" Пры ўпраўленні культуры Мінгарвыканкама ствараецца "Профсоюз учреждений культуры и спорта г.Минска". Ствараецца не ў структуры ФПБ, з усімі магчымымі парушэннямі Статута прафсаюза: не збіраліся сходы і канферэнцыі, не абіраліся дэлегаты, урэшце, не абмяркоўваліся і прычыны падобнай дзеі. Затое была "канферэнцыя" з начальствам у прэзідыуме.

Стварылі і адрапартавалі наверх. Але, калі падлічылі, то ўбачылі, што вырвалі па-жывому са структуры абларганізацыі толькі крыху больш за трыццаць малакольскасных пярвічак. А ўжо ў верасні—кастрычніку некаторыя з іх пачалі дэманстратыўна і голасна вяртацца назад у сваю абларганізацыю. А гэта для нашай дзяржрэчаіснасці не падыходзіць. Бо ідэя ж была, каб у гэтую зноў створаную ўвайшлі наогул усе прафарганізацыі сталіцы.

Вось тут і канчаткова ўтвараецца КГП. 11 кастрычніка мінулага года сумеснае пасяджэнне калегіі Міністэрства культуры і Мінгарвыканкама шчыра і, заўважце, афіцыйна "просит ФПБ создать единую Минскую городскую профорганизацию независимо от ведомственной принадлежности учреждений, в которых они работают". Як прынята, кантроль "за исполнением" усклалі на першага намесніка Мінкультуры У.П.Рылатку і намесніка старшыні Мінгарвыканкама М.А.Пятрушына.

А як жа статут, скажаце Вы, шаноўныя чытачы. А навошта кіраўнікам забіваць галаву глупствам? У нас і не такое магчыма. Урэшце, чытайце ж: "прасіць".

24 снежня праводзіўся пленум абласной арганізацыі прафсаюза з парадкам дня "Аб рабоце ў святле рашэнняў нечарговага IV з'езда ФПБ". А чаму не скарыстаць яго і не забіць "двух зайцоў"? Выкінуць старшыню, які, як не замарудзіў напісаць у сваім пісьме ад 9 снежня 2002 г. № 02/1093 у Мінгарвыканкам і Мінкультуры Л.П.Козік, — "некируемы", і стварыць нарэшце гэткага вялікага гарадскога прафсаюзнага монстра.

Спектакль на пленуме быў разыграны па сцэнарыі КГП. Але ў яго фінал раптам не вытрымала і ўмяшалася "зала". Члены пленума не толькі не падтрымалі гэтых пасылаў, але і далі ім прынцыповую ацэнку, кшталту "і самі не працуюць і іншым не даюць".

На гэтым і скончылася, з палёгкай уздыхнуўшы, скажаце вы.

Памыляецеся. Статут і лозунгі ў нас толькі для выступленняў. Рабіць магчыма і наадварот.

І вось рассылаецца вялікімі тыражамі падрыхтаваны Мінаблвыканкамам "справочный материал к единому дню информирования населения", у якім цэлым абзацам адзначаецца, што "Сегодня очень важно, кто возглавляет ... отраслевые организации. Но как можно оценить позицию руководства областного отраслевого профсоюза работников культуры (В.А.Мамонько), которое избрало путь голой критики размеров заработной платы работников... При этом используя страницы негосударственной прессы ("Народная воля", № 243, "Белорусская деловая газета", №№ 178, 180) и не говоря ни слова о том, что только в текущем году облисполкомом значительные средства направлены на укрепление материальной базы той же областной библиотеки имени А.С.Пушкина, Молодечненского музыкального училища имени М.К.Огинского и т.д. Умолчали о том, что почти 1500 работников культуры были поощрены денежными вознаграждениями".

Далей КГП прымае рашэнне арганізаваць гэтак званы "гарадскі прафсаюз" на прэзідыуме Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры. Там, напэўна, прагаласуюць як трэба. А каб была хоць нейкая падстава, 26 снежня 2002 года засядае "Комитет профсоюза работников культуры и спорта г.Минска" (той самы, летні), які, "рассмотрев письмо ФПБ... направленное министру культуры Республики Беларусь Гуляко Л.П. и председателю Мингорисполкома Павлову М.Я. постановил: согласиться с тем, чтобы прекратить деятельность профессионального союза работников учреждений культуры и спорта г.Минска и на его базе образовать Минскую городскую организацию с включением в ее состав все профсоюзные организации, созданные в управлениях, организациях, расположенные на территории г.Минска" (стыль і граматыка іхнія).

Кіраўніцтва РКП, у каторы раз парушаючы статут, уносіць дадзенае пытанне на пасяджэнне свайго прэзідыума, якое адбудзецца 15 студзеня б.г.

**Уладзімір МАМОНЬКА,**
**старшыня Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры.**

*Гусіныя бойкі; на міжнароднай выставе птушак у Мінску, студзень 2003 г.*

**Фота IREX/ProMedia.**

РЕПОРТАЖ СО СТРОЙКИ

# Нас объединила бесхозяйственность

Оказавшись безработным, я наткнулся на объявление о приеме на работу в строительное управление №94 четвертого треста. В отделе кадров сообщили, что заработки составят более "сотни баксов" в месяц. Оформили временный договор.

Вскоре я оказался на объекте — строительстве подземного перехода. С первых минут начались приключения, о которых не могу забыть до сих пор.

Подобрался странный коллектив. Здесь были учащиеся профтехучилищ, многие из которых хорошо работать не умели и не хотели. Трудились так называемые "химики", которым главное день отбыть. В маленькой бытовке с утра уже лежал подвыпивший работник. Он предложил помочь ему допить бутылку и стал рассказывать о том, как хорошо провел вчерашний вечер.

Пить я и еще один работник отказались, что сильно удивило остальных. Мы оба сразу же приступили к работе, изготовлению опалубки. Хотелось побольше сделать и побольше заработать. Мой напарник — классный специалист, имеет 4-й разряд. Вот мы и решили трудиться вместе. Но здесь появился представитель управления, который назвал себя старшим и заявил, что мы будем работать отдельно. Нас удивило такое довольно странное решение.

Мы попросили у него спецодежду и необходимые инструменты. В ответ услышали: "Временщикам не положено". В итоге уже к обеду свою куртку и вязаную шапочку я основательно заляпал грязью и краской.

Вскоре подъехали рабочие другой бригады и начали красить колонны. Ветер дул в нашу сторону, и запах краски не давал покоя. Но что делать? У них ведь тоже задание.

Во второй половине дня мы закончили опалубку и стали ждать раствор. Ждали долго, до темноты. Лишь вечером подъехала машина. В полутьме, лишь при одном прожекторе на всех, заливали бетон. Шофер спешил, ибо его смена заканчивалась. Поэтому просто вывалил его на опалубку. Часть попала куда надо, часть рядом. С трудом, но уложили бетон. Не малая часть осталась. Что с ним делать? На улице мороз, скоро он скует его в бетон. Однако, как оказалось, он никому не нужен. Опытные работники просто разбросали его по стройке и засыпали землей. Вот куда уходят народные денежки. Меня сильно тронуло это "захоронение".

Утром следующего дня начали отдирать опалубку. Ведь вечером, в полутьме, не до нее было. Но за ночь бетон затвердел. Пришлось ломиками и лопатками отбивать использованную опалубку. К тому же часть деревянных брусков осталась. Их охотно подбирали жители соседних домов для личных нужд. Некоторые работники уже с утра просили одолжить денег на "напиток для подогрева".

Меня удивило и безразличное отношение к технике безопасности. На дверях не было ручек, из-за чего я прищемил палец. Медицинской аптечки не оказалось. Палец обработал зеленкой и обмотал бинтом, который оказался у одного работника. Подключение к рубильникам, изготовление переносных удлинителей и тому подобное делалось нами без помощи электриков. А ведь электричество — дело серьезное.

Позже нас перебросили на новый объект — холодильную базу. Работы там возглавлял крепкий хозяйственник мастер В.В.Кочан. Здесь хорошо был организован труд. Мастер выдал инструменты, помогал деловыми советами и начислял неплохие заработки. Не его вина, что нам урезали потом эту сумму по надуманному предлогу.

Три недели, проведенные на стройке в качестве временного рабочего, вынудили меня взяться за перо и поведать через газету об увиденном. Я — офицер запаса. Многого насмотрелся в армии, знаю, что говорят об армейском бюрократизме. Но то, что я увидел на стройке, убедило меня в правильности лозунга: "Народ и армия — едины". К сожалению, в бесхозяйственности. Если не покончим с ней, она покончит с нами.

Кстати, заработанные в декабре прошлого года деньги к Новому году я с напарником так и не получил. В кассе управления не нашлось на нас двоих каких-то 180 тысяч рублей. Хорошо, что хотя бы выплатили постоянным работягам.

**Юрий АЛЕКСАНДРОВ.**

*г.Минск.*

# Камунальнікі шыкуюць

**На думку работнікаў камунальнай гаспадаркі, жыццё ў іх ледзь ці не гаротнае. Няма, маўляў, сродкаў на рамонт жылля, набыццё сантэхнічных вырабаў і электрапрыбораў, забеспячэнне ўчасткаў неабходнымі матэрыяламі і інструментамі.**

А вось супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю Віцебскай вобласці вырашылі, што камунальнікі жывуць не па сродках, а працай кажучы, — шыкуюць. Праверыўшы фінансавую дзейнасць камунальных прадпрыемстваў, кантралёры заўважылі нямала прыкладаў марнатраўства. У прыватнасці, абласное ўпраўленне жыллёва-камунальнай гаспадаркі летась набыло новую аўтамашыну "Волга", хоць папярэдняя машына гэтай жа маркі выкарыстоўвалася толькі 2 гады замест шасцігадовага лімітнага тэрміну.

Таксама дзве легкавыя аўтамашыны эксплуатаваліся ў мінулым годзе і камунальным прадпрыемствам "Орша-жылфонд". Звыш ліміту прабег службовага транспарту разам з прыпіскамі кіламетражу і скарыстанага паліва выяўлены рэвізорамі Дзяржкантролю ва ўпраўленнях жыллёва-камунальнай гаспадаркі Расонскага, Талачынскага раёнаў, горада Полацка і Першамайскага раёна Віцебска.

Не абцяжарваючы сябе эканоміяй бюджэтных сродкаў і не імкнучыся зарабляць грошы за кошт развіцця паслуг насельніцтву, камунальнікі ахвотна "эканомяць" здароўе таго ж насельніцтва. Да прыкладу, Віцебскае гарадское жыллёва-камунальнае прадпрыемства загадала знізіць на 10—15 градусаў узровень ацяплення кватэр гараджан. Вось ужо сапраўды — багаты беднаму не спачувае, а на ягоным горы нажываецца.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

